# МІХАСЬ КАВЫЛЬ

*Беларусь ты мая, Беларусь,*
*Незагасная зорка Венера.*
*Я агнём тваім вечным гару,*
*У тваё уваскрошанне веру.*

Міхась Кавыль. “Беларусь”.

Беларускі пісьменнік, публіцыст і грамадскі дзеяч Міхась Кавыль (сапраўднае прозвішча Язэп Лешчанка) нарадзіўся 1 снежня 1915 г. у шматдзетнай сялянскай сям’і, як потым пісаў сам паэт, — “пад небам Случчыны каханай”. Язэпу не споўнілася і двух гадоў, калі на Першай сусветнай вайне загінуў ягоны бацька. Сям’я і раней жыла бедна, а цяпер дзеці часам нават галадалі і Язэп амаль да самага заканчэння сямігодкі (1930) пасвіў свіней і авечак. Як успамінаў паэт пазней, “ганяўся за імі па каменнях і іржэўніку [і] выглядаў, як негр, бо смажыўся на сонцы без кашулі”[1]. У верасні 1930 г., не ў апошнюю чаргу дзякуючы свайму пралетарскаму паходжанню (айчым працаваў у саўгасе рабочым), Язэп паступіў у славуты Мінскі Белпедтэхнікум імя У.Ігнатоўскага. Нарэшце яго мара здзейснілася:

*У Менск, у Менск,*
*У горад стольны, невядомы.*

*Купала там, Дубоўка, Колас,*
*Бядуля, Пушча, Маракоў…*
*Краіны роднай звонкі голас,*
*Што быў задушаны з вякоў.*

*Пачуць, пабачыць… Часу крок,*
*Узвівы дум, надзеі цішы,*
*Саўю з прыгожых слоў вянок*
*Для “Маладняка”, а мо й “Узвышша”…*

(“Непакорныя”)

Стыпендыі ў сорак рублёў не хапала, і, як многія навучэнцы, Язэп зноў галадаў. Цяпер гэта здзіўляе, але тады дзённы рацыён

[1] Беларускі свет. 1991. № 22.

студэнта тэхнікума амаль нічым не адрозніваўся ад рацыёну вязня канцлагера — тыя ж 300 грамаў хлеба на дзень і міска гнілой капусты:

*Трыццаць трэці галодны год.*
*Трыста грамаў хлеба — паёк.*
*Падцягнула і мне жывот.*
*Торбы накрыж і ў рукі кіёк?*
……………………………………
*Не прасіў дапамогі з дому,*
*Ведаў — сёстры і маці ў бядзе.*
*Самі чэрствым давяцца комам,*
*Рады шчаўніку ды лебядзе…*

(“Першая рана”)


Кавыль М.

Хоць голад і не цётка, але галоўнымі для Язэпа былі вучоба і веды. І тэхнікум даў Язэпу іх спаўна. Прафесарска-выкладчыцкі склад царскасельскага ліцэя (як мы ўжо гаварылі, гэтак называлі педтэхнікум у той час) не саступаў універсітэцкаму. Якуб Колас, браты Антон і Язэп Лёсікі, Міхайла Грамыка і іншыя славутыя выкладчыкі дапамаглі Язэпу і яго новым сябрам атрымаць добрыя веды. А сярод сяброў быў ужо таксама згаданы шэраг будучых вядомых пісьменнікаў. Трохі пазней запісаўся Язэп і ў літаратурны

гурток, які існаваў пры тэхнікуме і дзе неаднойчы гасцявалі М.Лужанін, В.Маракоў, Э.Агняцвет[1], А.Кучар і іншыя маладыя, але ўжо вядомыя літаратары. З апошнім, Алесем Кучарам, і іншымі "ленінцамі" ў Язэпа ўжо тады не складіся адносіны:

*Чалавек чалавеку звер.*
*Чалавек чалавеку брат.*
*Якой хочаш меркай змер,*
*Але гад застаецца гад…*

("Першая рана")

Нягледзячы на галодны час, студэнцкае жыццё захапіла Язэпа і яго сяброў. Хлопцы былі маладыя, вясёлыя, часта жартавалі. Так, па сведчанні Франца Гінтаўта[2], значок СВБ (Саюза ваяўнічых бязбожнікаў) аднакурснік Язэпа Сяргей Баран[3] перайначыў у Саюз Вызвалення Беларусі. Паэму Сяргея Астрэйкі "Бенгалія" пра цяжкае жыццё бенгальцаў пад каланіяльным прыгнётам англічан перайначылі ў "Беларусь":

*Бенгалія,*
*Бенгалія…*
*Не спяшы ў чырвоны "рай",*
*Дзе пакутуе, Бенгалія,*
*Беларусь, твая сястра.*

*Бенгалія,*
*Бенгалія…*
*Не румянь пажоўклы твар:*
*Няма розніцы, Бенгалія,*
*Душыць хан, ці камісар…*

("Бенгалія")

Потым гэтыя жарты энкавэдысты не зразумеюць і ўспомняць зняволеным і бенгальцаў і СВБ.

А пакуль вучоба ішла. Хтосьці, не вытрымаўшы цяжкага змагання за веды, сыходзіў, хтосьці, наадварот, толькі паступаў, кагосьці, як, напрыклад, сяброў Язэпа, "забастоўшчыкаў" (адмовіліся збіраць мёрзлую бульбу ў калгасе "Сцяпянка") У.Сядуру, С.Астрэйку,

Ф.Гінтаўта, У.Гуцьку, С.Русаковіча[4], выключылі. Але выключэнцы доўга не сумавалі, бо неўзабаве паступілі ва універсітэт…

23 лютага 1933 г. энкавэдысты правялі беспрэцэдэнтную акцыю. За ноч арыштавалі дзевяць беларускіх літаратараў. У асноўным гэта былі пачынаючыя аўтары. Большасць прозвішчаў цяпер нам вядомы: С.Астрэйка, З.Віталін[5], Ф.Гінтаўт, У.Дудзіцкі, М.Кавыль, Л.Калюга, С.Ліхадзіеўскі, М.Лужанін, С.Русаковіч. Самым маладым у гэтым спісе аказаўся 18-гадовы Язэп Лешчанка. У «амерыканцы» самага маладога давядуць да таго, што хлопец шклом «шмаргане з усёй сілы па вене». Але гэтак проста памерці яму не дадуць. Рану зашыюць, а Язэпа адправяць у карцэр — «адпачываць».

Праз паўгода следства «ідэалагічным дыверсантам» дадуць для пачатку па 2—3 гады пазбаўлення волі і неўзабаве адправяць (амаль усіх у адным вагоне-цялятніку) у Новасібірск, дзе і раскідаюць па розных канцлагерах. Але і ў канцлагеры паэт пісаў:

*Няхай за край абрабаваны,*
*Імя якому Беларусь,*
*Сканаю я ў крывавых ранах*
*Ад вашых чорных, катніх рук, —*

*Не буду плакаць і прасіцца,*
*Я свой народ не здраджу век,*
*Бо покуль сэрца будзе біцца,*
*Хачу я звацца — чалавек…*

(“Пад небам Случчыны каханай”)

Адбыўшы тры гады на Сяданбудзе (успаміны М.Кавыля пра «жыццё» ў канцлагеры надрукаваны ў газеце «Новое русское слово» ад 15 снежня 1974 г.), Язэп вяртаецца дадому, але неўзабаве старыя “сябры” прымушаюць яго з'ехаць з Бацькаўшчыны — дом Лешчанкаў знаходзіўся ў пагранічнай зоне, у якой былым зэкам жыць не дазвалялася. Пасля «высялення» Язэп падаецца ў Арол, потым зноўку спрабаваў уладкавацца дома, але чарговая сустрэча з энкавэдыстамі падказала: трэба хутчэй уцякаць. На гэты раз — у Варонеж, да сястры свайго сябра, таксама сяданбудаўца. У Варонежы Язэпа і застае пачатак вайны.

Далейшы лёс паэта пайшоў па даволі звычайным для таго часу ланцужку: мабілізацыя, муштра, баі, акружэнне, палон. Доўгія месяцы палону. Праз многія гады Міхась Кавыль раскажа, як жылося

ў лагеры ваеннапалонным: гульні са смерцю, самагубства, людаедства былі звычайнай з'явай у нямецкіх канцлагерах (як і ў некаторых савецкіх).

У пачатку 1943 г. Язэп быў вызвалены з палону (па некаторых звестках, дзякуючы намаганням айца Мікалая Лапіцкага[6]) і вярнуўся ў Мінск. Уладкаваўся на працу ў адзін з аддзелаў Мінскага камісарыята. Але хутка вымушаны зноўку ўцякаць:

*Перанёс я прыгодаў ці мала,*
*Упіваўся рамантыкай бою,*
*А цяпер, як казаў Купала,*
*Засталося ў вір галавою…*

(“У вір галавою”)

Восень 1944 г. Язэп Лешчанка сустрэў у Нямеччыне. Але, прадчуваючы небяспеку (як потым аказалася — недарма), падаўся працаваць на шахты ў Бельгію. Праз шэсць месяцаў Язэп «страціў на левай руцэ палец <…> і, атрымаўшы ад лекара даведку, што ў капальнях працаваць не можа”, вярнуўся ў Нямеччыну. У лагеры для ДП[2] Язэп трохі ажыў. Рэдагаваў газету «Беларускае слова», выдаў свой першы зборнік вершаў «Ростань» (пад псеўданімам Міхась Кавыль, які і стаў новым прозвішчам паэта). У сакавіку 1950 г. (зноў, як і калісьці, дапамог М.Лапіцкі) Міхась Кавыль апынуўся ў Саўт-Рыверы (ЗША), дзе і жыве да сённяшняга дня. У Амерыцы Міхась Кавыль, як і шмат хто з беларускіх эмігрантаў, працаваў фізічна. Але, у адрозненне ад многіх з іх, даволі актыўна ўдзельнічаў і ў духоўным жыцці «беларускіх амерыканцаў». Рэдагаваў вядомы час. «Беларуская думка», выступаў у газ. «Бацькаўшчына», «Беларус», «Новое русское слово», час. «Баявая ўскалось». К.Барысавец, Э.Зубковіч[7], М.Куліковіч[8], Дз.Верас і Ю.Рымко паклалі яго вершы («Беларусь», «Божа наш», «Вясна», «Казка», «Ліст сына», «Не забуду я», «Ой, ты край мой залаты», «Паэма», «Поле-Поле», «Рыбацкая калыханка», «У няведамую даль», «Я душу невыгойна параніў») на музыку… І ўсё ж, пайшоўшы ў 1980 г. на пенсію («і нібы здрадлівыя феі, скакалі дні маіх гадоў»), М.Кавыль пісаў: «Думаў, здурэю ад бяздзейнасці». Але на стале ляжалі чатыры кнігі (“Ростань”[3]; “Пад зорамі белымі”[4]; “Першая

[2] Ад англійскага *Displaced Person* (перамешчаная асоба) — выгнаннік, уцякач, эмігрант.
[3] Кавыль М. Ростань. Рэгенсбург, 1947.
[4] Кавыль М. Пад зорамі белымі. Мюнхэн, 1954.

рана”[5]; “Цяжкія думы”[6]), дзесяткі новых вершаў і пачатак аўтабіяграфічнага рамана-хронікі. Трэба было зрабіць выбранае (кніга выбраных твораў паэта «Міжагнёўе» выйшла ў 1990 г.), і бяздзейнічаць не прыйшлося…

4 кастрычніка 1992 г. М.Кавыль паставіў апошнюю кропку ў рамане “Із агню ды ў полымя”. Па праўдзівасці інфармацыі і насычанасці невядомымі звесткамі гэта, безумоўна, незвычайная рэч. Раман з’яўляецца прыкладам бязмежжа чалавечай памяці. Адначасова гэта тлумачэнне-адказ, чаму за апошнія колькі соцень гадоў тыя сілы, якія спрабавалі знішчыць беларускую мову, наогул усё беларускае, так і не здолелі зрабіць гэта. 11 ліпеня 1995 г. Рыгор Барадулін у лісце да аўтара рамана пісаў:

*“Шаноўны спадар Міхась Кавыль!*

*З вялікай увагаю чытаю Вашыя творы. Гэта позірк на падзеі, якога ў нас тут няма. Лічу, што, асобнай кнігай выдадзеныя, яны будуць з’яваю. Жадаю Вам здароўя й поспеху. Хай з Вамі будзе Бог!*

*Жыве Беларусь!*
*Рыгор Барадулін.*
*Менск”.*

Успаміны Міхася Кавыля «Казённы дом і далёкая дарога»[7], таксама, як і раман, незвычайныя. Такога апісання «амерыканкі», вагона-цялятніка і іншых «славутасцей» 1930-х г. яшчэ не было ў беларускай літаратуры. «Звінець, як сталь, павінен верш паэты». Звіняць і радкі ўспамінаў Міхася Кавыля, звініць яго звон па загінуўшых:

*Ішлі яны па вуліцы шырокай…*
*Вецер скавытаў у завуголлі.*
*Песняры, трыбуны і праpокі,*
*За што, за што вас пакарала доля?*

*…Лорд Байран маўчаў на выспе шэрай,*
*Не ўзбудзіў паэт Рабіндраната.*
*Беларусі рэвалюцыянеры*
*На пакуты крочылі за краты.*

*Жылка йшоў з узнятаю паходняй,*

[5] Кавыль М. Першая рана. Манчэстэр, 1960.
[6] Кавыль М. Цяжкія думкі. Саўт-Рывер, 1961.
[7] Запісы. 1992. № 20.

*Малады Дубоўка, непакорны;*
*І Хадыка з імі долю зродніў,*
*Маракоў, задуманы агорны.*

*Жах над краем крыллі растапырваў,*
*І пісаў лісты сабаку Пушча…*
*А Купала ранай «харакіры»*
*Нас гукаў на помсту і на вушчунь.*

(“Помнік”)

У заключэнне хацелася б пажадаць Міхасю Кавылю, каб здзейснілася ягоная мара:

*Я маю надзею і мрою:*
*Калі-ні-калі ў завірусе*
*Пад марш пераможных герояў*
*І я на Радзіму вярнуся.*

(“Прароцтва”)

---

[1] **АГНЯЦВЕТ Эдзі** [сапр.: Каган Эдзі Сямёнаўна; 28.9.(11.10).1913, Мінск — 17.7.2000, Мінск], паэтэса, перакладчыца. З сям’і служачых. Скончыла сямігодку, МВПІ (1934), працавала рэдактарам дзіцячага радыёвяшчання, уступіла ў КПСС (1940). Падчас 2-й сусветнай вайны ў эвакуацыі ва Узбекістане. Пасля 1945 рэдактар Дзяржаўнага выдавецтва БССР.

З запісаў пісьменніка С.Шушкевіча:

*“У 1938 годзе быў арыштаваны паэт Мікола Хведаровіч, член КПСС з 1926, член Саюза пісьменнікаў БССР з 1934. Следчы параіў М.Хведаровічу знайсці літаратара, які мог бы напісаць станоўчую [характарыстыку] ягонай творчасці. Хведаровіч успомніў пра маладую паэтэсу, якой рыхтаваў да друку нізку вершаў, рабіў праўкі некаторых строф і радкоў.*

*І вось адбываецца суд над М.Хведаровічам. Вядомыя пісьменнікі Ільля Гурскі і Міхась Лынькоў абараняюць паэта, але суддзя зачытвае “характарыстыку” Э.Агняцвет, у якой М.Хведаровіч абвінавачваецца ў захапленні кулацкай паэзіяй С.Ясеніна і г.д. Хведаровіча прыгаварылі да 10*

*гадоў лагернага зняволення, а калі ён адбыў гэты тэрмін яго саслалі ў паўночны Енісейск Краснаярскага краю...”*

[2] **ГІНТАЎТ Франц Віктаравіч** [Гінтаўт-Дзевалтоўскі; псеўданім: Алесь Шчодры; 9.3.1910, в. Баршчэўнік Барысаўскага пав. Мінскай губ., цяпер Лагойскі р-н Мінскай вобл. (паводле іншых звестак, н. у 1914 у в. Вараноўшчына Барысаўскага пав. Мінскай губ., цяпер Лагойскі р-н Мінскай вобл.) — 20.7.2002, Гродна], пісьменнік, біёлаг. У 1923—27 вучыўся ў 13-й доследна-паказальнай сямігадовай школе пры педфаку БДУ. У канцы 1920-х г. паступіў у МБПТ, які скончыў у 1931. Займацца літаратурнай творчасцю пачаў у тэхнікуме. Яго карэспандэнцыі і апавяданні друкаваліся ў газ. «Беларуская вёска» і «Піянер Беларусі», час. «Чырвоны сейбіт». У 1931 паступіў на філалагічны ф-т БДУ, пасля мусіў перавесціся на біялагічны ф-т, бо на філфаку «органы» пачалі вышукваць нацдэмаў. Арыштаваны 24.2.1933 у Мінску па адрасе: вул. Старавіленская, д. 11, кв. 1; утрымліваўся ў мінскай турме «амерыканка». Асуджаны 10.8.1933 калегіяй АДПУ як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі» да 3 гадоў ППК. Этапаваны на Далёкі Усход. Працаваў на будаўніцтве непадалёку ад Нікольска-Усурыйска, пасля на Сяданскай плаціне каля Уладзівастока. У 1935 пераехаў у Саратаў, аднавіў навучанне ў Саратаўскім ун-це імя Чарнышэўскага. Удзельнічаў у навуковых экспедыцыях у стэпах Дона і Волгі. У 1940 пасля сканчэння ун-та быў пакінуты асістэнтам на кафедры заалогіі пазваночных. У лют. 1941 па конкурсе абраны загадчыкам навуковага аддзела Беларускага дзяржаўнага запаведніка (сядзіба ў Бягомлі). У пачатку вайны не паспеў эвакуіравацца; падчас нямецкай акупацыі знаходзіўся ў Беларусі. З 1944 жыў у Вільні, працаваў перакладчыкам з польскай мовы і загадчыкам вучэбнай часткі ў 6-й жаночай гімназіі. У 1945 паводле жадання жонкі перабраўся на яе радзіму ў Куйбышаў. Працаваў інжынерам-рыбаводам і назіральнікам-гідрабіёлагам, асістэнтам у медыцынскім інстытуце і нам. дырэктара ў сярэдняй школе. У 1955 вярнуўся ў Беларусь, жыў у Мінску. Потым па накіраванні Міністэрства асветы БССР пераехаў у Гродна. Працаваў нам. дырэктара СШ № 12; з восені 1958 асістэнт кафедры біялогіі ў Гродзенскім медыцынскім інстытуце; з 1965 у педагагічным інстытуце — старшы выкладчык і дацэнт кафедры заалогіі і анатоміі. З 1975 на пенсіі. У 1980—1990-х г. артыкулы і нарысы Г. публікаваліся ў час. «Полымя», «Маладосць», «Свіцязь», газ. «Літаратура і мастацтва», «Народнай газеце». Рэабілітаваны 24.8.1956 калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР. Асабовая справа Г. № 14618-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

[3] Верагодна, маецца на ўвазе **БАРАНОЎСКІ Сяргей.** Даты нараджэння і смерці невядомы. Вучыўся ў МБПТ разам з М.Кавылём, Л.Калюгам, С.Астрэйкам, Л.Мараковым (братам В. Маракова), Ф.Гінтаўтам, З.Астапенкам і інш.



Калюга Л.







[4] **РУСАКОВІЧ Сяргей Фёдаравіч** [1912, в. Асавец Бабруйскага пав. Мінскай губ., цяпер Любанскі р-н Мінскай вобл. — 1937 ?, ГУЛАГ], празаік, перакладчык. У 1930 паступіў у МБПТ. Быў членам літаратурнага гуртка навучэнцаў тэхнікума. Увосень 1931 разам з З.Астапенкам, С.Астрэйкам, У.Сядурам і некаторымі іншымі «забастоўшчыкамі» за ўцёкі «з прарыву» па збіранні мерзлай бульбы ў калгасе «Сцяпянка» выключаны з тэхнікума. У 1931 паступіў у БДУ. Неўзабаве пакінуў ун-т, працаваў перакладчыкам Ваеннага выдавецтва. Вясной 1931 у час. «Узвышша» апублікаваў апавяданне «Крумкач». М.Кавыль пісаў, што ў апавяданні «Крумкач» у «замаскіраванай форме (аўтар) крытыкаваў маскалёў, якіх у народзе называлі крумкачамі…» Арыштаваны 23.2.1933 у Мінску па адрасе: вул. Крапоткіна, д. 63б, кв. 1.

Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 10.8.1933 як «член контррэвалюцыйнай нацдэмаўскай арганізацыі» да 3 гадоў ППК.. Этапіраваны ў Новасібірск. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 24.8.1956. Асабовая справа Р. № 14618-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

[5] **ВІТАЛІН Змітро** [сапр.: Сергіевіч Зміцер Рыгоравіч; 8.8.1912, в. Сухое Пінскага пав. Мінскай губ., цяпер Іванаўскі р-н Брэсцкай вобл. — 4.11.2004, Адэса], паэт, празаік, журналіст. З 1915 знаходзіўся з бацькамі ў эвакуацыі ў Бранску. Летам 1919 вярнуліся ў Беларусь, у Калінкавічы. З восені 1920 вучань вышэйшага пачатковага вучылішча. У 1929 пасля заканчэння 8 класа Калінкавіцкай СШ, выехаў у Мінск, спрабаваў паступіць ў політэхнікум (?), але не атрымалася, "заваліў" матэматыку. Працаваў падсобным рабочым на будоўлі. Пасля сканчэння курсаў радыёманцёраў — у Радыёцэнтры БССР. З 1930 літсупрацоўнік. У тым ж годдзе ў друку з'явіліся першыя вершы, стаў членам БелАПП.


Віталін (Сергіевіч) З. Р.

*«Змітро Віталін быў вышэй сярэдняга росту, крыху сутулы, русавалосы, заўсёды акуратна апрануты, насіў прычоску «ёрш», якая ніколі не закрывала яго высокі лоб. Вызначаўся даволі сур'ёзным тварам і выключна разумнымі шэрымі вачамі. Быў заўсёды ўраўнаважаным, ветлівым і немнагаслоўным. Лішняга слова на вецер не кідаў. Неяк не па гадах быў сур'ёзным, за што мы, яго сябры, празвалі «дзядком». Паважаў і цаніў сяброўства. Гэта быў верны і надзейны сябар»* (Пруднікаў П. Далёкае, але не забытае. Мн., 1988).

З вясны 1932 адказны сакратар крычаўскай раённай газеты. У верас. 1932 паступіў у МВПІ. Адначасова працаваў сакратаром час. «Шляхі калектывізацыі». Жыў у Мінску па адрасе: Барысаўскі тракт, д. 53, кв. 1. Арыштаваны 19.3.1933 у памяшканні рэдакцыі. Асуджаны асобай нарадай пры АДПУ 10.8.1933 як «член антысавецкай нацдэмаўскай арганізацыі» да 2 гадоў ППК.

---

З аўтабіяграфіі З.Віталіна:

*«Бяда навалілася недзе ў пачатку вясны 1933. Прама ў рэдакцыю заявіліся два «архангелы» з ДПУ, павялі мяне з сабой і памясцілі ў падвал унутранай турмы. Сядзеў я разам з вядомым журналістам, спецкорам «Звязды» Змітром Паваротным. У суседняй камеры сядзеў Сцяпан Ліхадзіеўскі… Я і Клім Грыневіч трымаліся адзін аднаго. Але на этап я трапіў раней за яго. Недзе ў верасні… нас пагрузілі ў «цялячы» вагон з кратамі на вакенцах і павязлі на ўсход. Разам са мной ехалі Максім Лужанін, Змітрок Астапенка і Валодзя Сядура* (у вагоне таксама знаходзіліся Ф.Гінтаўт, У.Гайка і інш. — ***Л. М.***).

*Прывезлі ў Марыінск, дзе размяшчаўся штаб Сіблага. Потым перавялі ў Арлова-Розаўскае аддзяленне гэтага ненаеднага жэрла, дзе праішачыў у якасці раба два гады…»*

Вярнуўся ў Калінкавічы ў канцы 1934, працаваў на будоўлі. Вясной 1936 мабілізаваны ў армію. Пасля дэмабілізацыі, прэсаўшчык фанернай фабрыкі ў Мазыры (пераехаў у райцэнтр пасля арышту бацькі). У канцы 1930-х г. карэспандэнт газ. «Бальшавік Палесся». З канца 1943 карэспандэнт дывізіённай газеты «Вперёд за Родину!». З чэрв. 1945 у рэдакцыі газ. «За честь Родины», якая дыслакавалася ў Вене. У 1950 пераведзены ў адэскую акруговую газ. «Защитник Родины». У 1956 накіраваны ў Будапешт, дзе працаваў у рэдакцыі газ. групы войскаў «Ленинское знамя». Дэмабілізаваны ў 1961 у чыне маёра. Вярнуўся ў Адэсу. З 1961 на творчай рабоце. Працаваў у армейскім друку, пісаў на рускай мове. Пад уласным прозвішчам выдаў кнігі на ваенную тэматыку «На голубом Дунае» (Адэса, 1955), «Первый бой» (Адэса, 1957), «Мы служим Родине» (Масква, 1962), «Приветствие из юности» (Адэса, 1964), «Начало легенды» (Масква, 1966), «Тревожная осень» (Адэса, 1966), «Десять дней отдыха» (Масква, 1967), «Высокий остров» (Адэса, 1969), «Маршевая рота» (Адэса, 1971), «Товарищи огненных лет» (Масква, 1972), «Гроза на рассвете» (Адэса, 1973), «Сосны среди поля» (Адэса, 1975), «Хорошие приметы» (Адэса, 1978), «Нет последних рубежей» (Адэса, 1982), «Личная война» (Кіеў, 1983). Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 24.8.1956. Асабовая справа С. № 14618-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

[6] **ЛАПІЦКІ Мікалай** [1813(26).1.1907, в. Грэлікі Вілейскага пав. Віленскай губ., цяпер не існуе — 198.8.1976, Саўт-Рывер, ЗША], святар. Падрабязней гл.: *ЭГБ*, т. 4.

[7] **ЗУБКОВІЧ** (у дзявоцтве — Пілеман) **Эльза** [1895, Мінск — 4.6.1983, Нью-Ёрк], кампазітар. З сям'і медыка. Падрабязней гл.: http://vidymus.livejournal.com/15494.html.

[8] **ШЧАГЛОЎ (К У Л І К О В І Ч) Мікалай Мікалаевіч** [4.4.1893, Смаленшчына; паводле інш. звестак, 1896 ці 1897, Масква — 31.3.1969], бел.

кампазітар, музычны і тэатральны дзеяч. Скончыў Маскоўскую кансерваторыю. Адзін з арганізатараў Мінскага опернага тэатра, дырыжор яго сімфанічнага аркестра. З 1936 рэдактар на Беларускім радыё. У перыяд акупацыі Беларусі ўзначальваў музычны аддзел Беларускага культурнага згуртавання. З 1944 у Германіі, кіраўнік канцэртнай групы пры Міністэрстве па справах акупаваных усх. тэрыторый, дырэктар і мастацкі кіраўнік Бел. тэатра эстрады. З 1950 жыў у ЗША.

Кр.: *ЭГБ*, т. 6—2.